**ГАЛАСУЮЧЫ НА КАНДЫДАТАЎ FJN ВЫКАЖАМ НАШ ПАТРЫЯТЫЗМ І ПАЧУЦЦЁ АДКАЗНАСЦІ ЗА БУДУЧЫНЮ НАШАЙ АЙЧЫНЫ.**


# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 22 (692) 1 ЧЭРВЕНЯ 1969 г. ЦАНА 60 гр.


## VI ЗЕЗД БГКТ

## БЕЛАРУСЫ НЕ ПРОСТА ЖЫВУЦЬ У ПОЛЬШЧЫ, АЛЕ ЯЕ БУДУЮЦЬ, З'ЯЎЛЯЮЦЦА ЯЕ СУПОЛЬНЫМІ ГАСПАДАРАМІ


Хай заўжды будзе сонца...

**(З ВЫСТУПЛЕННЯ САКРАТАРА ВК ПАРП ВІТАЛЬДА МІКУЛЬСКАГА).**

Таварышы! Я ўпаўнаважаны кіраўніцтвам Ваяводскага камітэта партыі, каб з нагоды вашага з'езда прывітаць вас сардэчна, падзякаваць вам, а за вашым пасрэдніцтвам усім дзеячам і членам Беларускага грамадска-культурнага таварыства за вашу працу, укладзеную не толькі ў развіццё Беларускага таварыства, але ў развіццё нашай зямлі наогул.

Кіраўніцтва Ваяводскага камітэта партыі станоўча ацэньвае працу вашага таварыства. Маеце ў гэтай працы шмат дасягненняў ва ўсіх галінах. Маеце гэтыя дасягненні, бо нацыянальныя меншасці ў Польшчы, у тым таксама беларусы, не проста жывуць у Польшчы, але яе будуюць, з'яўляюцца яе супольнымі гаспадарамі.

Беларусы супольна з палякамі будавалі Народную Польшчу, будуюць яе сённяшні дзень, будуюць яе будучыню, лічаць Польшчу супольнай айчынай. Таму эканамічнае, грамадскае, культурнае развіццё рэгіёна, у якім жывуць беларусы, ці таксама іншыя меншасці, якія якраз у гэтым рэгіёне сканцэнтраваны, узравень жыцця гэтых меншасцей залежыць ад развіцця ўсяго ваяводства, залежыць ад развіцця ўсёй краіны. Працэсы, якія адбываюцца ў нашай краіне, не могуць быць, і не будуць, іншыя ў гэтым рэгіёне таксама.

Таму галоўным заданнем БГКТ — зліваць гэты рэгіён у цэласць дзяржаўнага арганізма, у агульны працэс, які ахоплівае ўвесь польскі народ. Вядома, у гэтым агульным працэсе нацыянальныя меншасці, значыць і беларуская меншасць, захаваюць пэўныя асаблівасці, перш за ўсё шырока разуметыя культурныя асаблівасці. Іншыя ж асаблівасці, перш за ўсё асаблівасці палітычныя, якія ставілі сцяну паміж польскім і беларускім народамі, былі ліквідаваны ад моманту ўваходу нашай краіны на шлях сацыялістычнага будаўніцтва.

Апрача гэтых агульных сцверджанняў хацеў бы я спыніцца на дзвюх генеральных справах, якія ў дыскусіі былі шырока ўзнятыя. Хацеў бы я над імі спыніцца таму, бо тычацца яны ведамства, за працу якога адказваю я, а таксама і таму, што выношу ўражанне, што таварышы дэлегаты не маюць на гэту тэму дастатковай інфармацыі.

Цэнім Беларускае грамадска-культурнае таварыства за развіванне і распаўсюджванне беларускай культуры, за культываванне беларускага фальклору. І напэўна ваша таварыства, між іншым у апошніх гадах, мае тут шмат дасягненняў. Аднак, здаецца мне, так прынамсі я ацэньваю, што дагэтуляшнія дасягненні таварыства ў галіне культурнай дзейнасці, развіцця беларускага фальклору скромныя. Да такога сцверджання ўпаўнаважвае мяне апошні агляд калектываў мастацкай самадзейнасці нацыянальных меншасцей, на якім беларускія калектывы выпалі найслабей з усіх меншасцей, якія там былі прадстаўлены. Не ведаю, чаму таварышы не паднімаюць вострa, а я хацеў бы асабліва востра падняць тое, што ў дадзены момант на вёсцы гіне прыгожая традыцыя народнай беларускай песні.



Фота ЦАФ — Сянько

Ведаю з уласнага вопыту, што беларуская моладзь любіць песню і з лёгкасцю яе выконвае. Тым часам беларуская песня гіне. Чаму так дзеецца? Што тут таварыства павінна рабіць, каб супрацьдзейнічаць гэтай адмоўнай з'яве. Не думаю, каб быў гэта вынік развіцця масавых сродкаў перакazу — тэлевізіі, радыё. Раней я меркаваў таксама, што ў гэтым прычына. Аднак яно не так. Быў такі перыяд у Беластоцкім ваяводстве, калі аматарскія калектывы мастацкай самадзейнасці хутка падалі колькасна. Цяпер маем адваротны працэс. Аказваецца, што пасля пэўнага пераходнага перыяду тэлевізія не толькі не перашкаджае развіццю мастацкіх калектываў, але наадварот — узбуджае. З адной засцярогай: тэлевізія застаўляе рух мастацкай самадзейнасці прымаць больш сучасны выгляд, новыя формы дзеяння.

Думаю, што наогул варта б у вашым таварыстве больш гаварыць аб сучаснасці і больш яе ўлічваць у змесце вашага дзеяння. Гэтай справы не збыць спрошчаным поглядам аб сучаснай моладзі, які тут прадставіў тав. Каленік. Гэта вялікае спрашчэнне справы. Вы любіце бярозу, я люблю wierzbę płaczącą. Але мы павінны ўяўляць, што сярод гэтых бяроз і ніцых вербаў з'явіўся трактар, электраматор, што з'явілася шмат іншых рэчаў. І калі мы гэтага не ўлічым, дык праўдападобна будзем мець клопат з утрыманнем і культываваннем гэтага фальклору, з прыцягваннем моладзі.

Наогул праблему сучаснасці ў працы я б асабліва экспанаваў. Гэта добра, што таварышы гавораць, напрыклад, вельмі многа аб Грамадзе, аб Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі. Правільна, што гаворым аб КПЗБ, што гаворым аб Грамадзе. Таму проста правільна гаворым, што хочам пераняць усе тыя рэвалюцыйныя, прагрэсіўныя традыцыі і культываваць гэтыя традыцыі. Але КПЗБ і Грамада тэта ўжо гісторыя. Сёння, у сучасны дзень рэвалюцыйныя традыцыі КПЗБ увасабляе ПАРП, дас-

Працяг на стар. 4

## НАШ СУПОЛЬНЫ ДОМ


МІХАСЬ ХМЯЛЕЎСКІ

Старшыня Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы


Нядаўна адбылася важная падзея ў жыцці нашай арганізацыі — VI з'езд БГКТ. То не толькі выбар новых улад таварыства, не толькі падсумаванне пройдзенага шляху, але адначасова выпрацаванне, накрэсленне з'ездам новых заданняў, якія будуць прычыняцца да яшчэ большага аўтарытэту Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў асяроддзі, у якім яно дзейнічае, да яшчэ большага ўплыву на гэтае асяроддзе. А гэты ўплыў будзе адчувальны толькі тады, калі БГКТ, улічваючы нашу нацыянальную спецыфіку, нашу беларускую натуру, патрапіць поўнасцю ўключаць беларусаў у будаўніцтва супольнага дома, супольнай Радзімы — імя якой Народная Польшча. Гэта справа моцна падкрэслівалася на нашым з'ездзе. Дзеля гэтага мы павінны шырока супрацоўнічаць з усімі арганізацыямі.

Праца нашых гурткоў заўсёды агранічвалася толькі да аматарскага руху. Добра, калі аматарскі рух паспяхова развіваецца, калі расспяваная наша моладзь. Трэба пашыраць і прапагаваць гэта, прапагаваць любоў да роднага слова, да роднай песні, карыстацца беларускім мясцовым фальклорам у мастацкай самадзейнасці і збіраць яго як найбольш. Гэта між іншым і належыць да статутовых абавязкаў. Але адначасова неабходна за пасрэдніцтвам нашага таварыства, каб беларускае асяроддзе актыўна ўключалася ва ўсе яго грамадскія і палітычныя справы. Неабходна, каб наш актыў знаходзіўся ўсюды, каб заданні, якія ставіць перад намі партыя, былі як найлепш выкананыя. А гэта магчыма толькі тады, калі нашыя гурткі і аддзелы, нашыя актывісты будуць цесна звязаны з мясцовымі ўладамі, калі будуць цікавіцца ўсімі пытаннямі свайго асяроддзя, мясцовасці, вёскі.

На VI з'ездзе БГКТ, між іншым, некаторыя дэлегаты гаварылі, што ў Гайнаўскім, Бельскім і Сямяціцкім аддзелах партыйныя і адміністрацыйныя ўлады цікавяцца дзейнасцю БГКТ. А, напрыклад, у Беластоцкім павеце гэтага зацікаўлення зусім няма. А ў сувязі з тым трэба сказаць наступнае: ад таго, як нашыя аддзелы будуць працаваць, як будуць дапамагаць нашым уладам у выкананні заданняў накрэсленых партыяй, будуць залежаць і адносіны ўлад да БГКТ. Наладзім добрыя адносіны з партыйнымі і адміністрацыйнымі ўладамі, будзем мець іх падтрымку і дапамогу толькі тады, калі дакажам працай сваю неабходнасць, свой удзел у развязванні тых ці іншых праблем нашага асяроддзя.

VI з'езд накрэсліў бліжэйшыя і далейшыя заданні для нашай арганізацыі. І вось тут хочацца сказаць перш за ўсё аб самых бліжэйшых заданнях. Першае заданне. 1-га чэрвеня ў дзень выбараў у сейм і рады нарадовыя ўсе члены БГКТ павінны прычыніцца да таго, каб беларускае насельніцтва ў сваіх мясцовасцях прадэманстравала адзінства народа з партыяй і каб аддало свае галасы на кандыдатаў Фронту адзінства народа. Дзень выбараў і вынікі іх з'явяцца яшчэ адной радаснай перамогай сацыялістычнага ладу ў нашай краіне, сацыялістычнай дэмакратыі. У гэты дзень прадэманструем мы, беларусы, бязмежную адданасць і вернасць беларусаў нашай партыі, бо толькі яна з'яўляецца выказнікам нашых інтарэсаў, бо толькі яна першы раз у гісторыі польскай дзяржавы стала сапраўдным прадстаўніком працоўнага народа і зраўняла ў правах беларусаў са сваімі братамі палякамі.

Незадоўга будзем святкаваць 25-цігоддзе Народнай Польшчы. У сувязі з гэтым усімі магчымымі і даступнымі сродкамі для БГКТ мы будзем шырока і ўрачыста адзначаць гэты юбілей нашай Айчыны. Вось гэта з'яўляецца другім вельмі важным заданнем для нашай арганізацыі, якая з'яўляецца адной са звенняў Фронту адзінства народа.

 


# БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 126


**ЛЕАПОЛЬД ТАНКЕВІЧ**

Нарадзіўся 7 красавіка 1939 года ў вёсцы Савейкі на Гродзеншчыне. У Шчучыне закончыў заатэхнікум. Там жа ў мясцовай газеце «Чырвоны Сцяг» і дэбютаваў. У 1958 годзе разам з сям'ёй прыехаў у Польшчу. Тут закончыў настаўніцкую студыю і працуе цяпер у Падставовай школе № 5 у Нысе.



## Пытанні і адказы

Хто раз хаця блудзіў, шукаў,
Той ведае адразу,
Як нам патрэбны у жыцці
Пытанні і адказы.

Яны з вачэй тваіх глядзяць
І галаву свідруюць.
То на твары зноў праляцяць,
То на губах вандруюць.

Заўсёды носіш іх з сабой,
Ці вечарам, ці ранкам.
Жыцця дарогаю з табой
Ідуць без перастанку.

Бо кожны знае, што не раз
Пытаў, чаго не ведаў,
А калі добры быў адказ,
Тады ішоў па следу.

Ах, як жа часта у жыцці,
Каму таго не знаці,
Адказаў слухаем такіх,
Што вушы затыкаці.

Ці ж хто не ведае таго,
Ці ж хто таго не знае:
Сёння пытаюць у яго,
А заўтра ён пытае.

Праходзяць месяцы, гады —
Час не зменіў нічога.
Глядзім — ужо і малады
Ідзе ў сляды старога.

Усё прыняў, здаецца, ён:
І гутарку, і словы,
І той сварлівы дзіўны тон,
Якім вядзе размовы.

А дзе ж знаходзіцца віна,
Дзе праўда ёсць схавана?
У нас знаходзіцца яна
Усім так добра знана.

Ды толькі ўсё гэта зменіць
І павярнуці могуць.
Яно задоўга нас баліць,
Каб нам таго не трогаць.






Надзівіцца з цябе
Я даўно не магу.
Як ты можаш рабіць
Так усё на бягу.

То ў спакою ідзеш,
То заскочыш убок,
Каб скарэй разматаць
Думаў-мараў клубок.

Гэтых думак-дарог
Не магу я абняць.
Каб хвіліну ты мог
На мяне пачакаць!

Я знайшоў бы сваю,
Хоць бязмерны іх лік.
Не хадзіў бы кругом,
Не папаў бы ў тупік.

А тады за табой
Я пайшоў бы, як цень,
Не згубіўся б нідзе,
Ані ўночы, ні ўдзень.

Можа просьба мая
Цябе трохі кране.
Я прашу... Пачакай!
Пачакай на мяне!

## Сорамна, дзяўчына...



Сорамна, дзяўчына,
Так хваліцца ўсім:
Сёння ходзіш з гэтым,
Заўтра ходзіш з тым.

Моргаеш вачыма,
Круціш галавой.
А дзе ж ты, дзяўчына,
Маеш гонар свой?

Двух іх баламуціш,
Водзіш за насы.
Бо яны шалеюць
Ад тваёй красы.

Сёння з тым у парку
Пасядзець ідзеш.
А другога заўтра
У кіно вядзеш.

Спрытна замятаеш
За сабой сляды.
Як сайдуцца разам,
Што пачнеш тады?

З кім пайдзеш пад руку:
З першым ці з другім?
Бо тады нялоўка
Будзе вам усім.

Ці не лепш адразу
Выбраць аднаго?
Быць заўсёды разам
І кахаць яго.

**Леапольд Танкевіч**

*

Ты не думай, што я жыццё патрачу
на каханне, што не варта гроша —
Адыдзі па-добраму,
па табе я не заплачу;
Слёз не льюць і па горшаму.

І вазьмі з сабою ўсе дарожанькі —
Да цябе не прыду я ніколі болей,
Нават ва ўспамінах.
Госцем няпрошаным
пайду ў поле.

Упаду на зямлю ніцма
і па травах, як па Вісле,
паплыву я да крыніцы,
каб напіцца новай сілы,
каб нанава ўваскрэснуць.

**І. Чыквін**

## ЁСЦЬ ТАКАЯ ЗЯМЛЯ...

Ёсць такая зямля,
Дзе кветкам расці немагчыма.
Ёсць такая зямля,
Дзе травы прасякнуты дымам.
Ёсць такая зямля,
Дзе пажараў бляск і луна,
Дзе выстралы, залпы гармат,
Дзе жыццё забірае вайна, —
Жыццё партызанаў — салдат.

Ёсць такая зямля,
Дзе чалавек загубляе другога.
Ёсць такая зямля,
Дзе мір — у падвалах астрога.
Ёсць такая зямля,
Дзе вочы лютых грабежцаў
Так прагны людское крыві,
Кожнага вольнага месца
І нават марское глыбі.

Ёсць такая зямля,
Дзе ворагам усё ж не бываць.
Ёсць такая зямля,
Свабоды якой не забраць.
Ёсць такая зямля:
Зямля — в'етнамскіх людзей,
Зямля — справядлівых народаў,
Якім за ўсё даражэй
Шчасце, мір... і свабода!

**Сяргей Сац**



## ДАСВЕДЧАНАСЦЬ

Горш чым дурняў і ворагаў ненавідзеў ён тых людзей, якія многае разумелі і адчувалі, але якім напляваць было на ўсё — якія маглі б нават недапусціць да таго ці іншага зла, але якім было ўсё толькі відовішчам як Рым, падпалены Неранам.

Змарнаваў добры кавалак жыцця, пакуль усведаміў сабе, што тыя людзі нічога не разумеюць і не адчуваюць напраўду. Шкада таго кавалка жыцця. Але ж мог патраціць на тое цэлае жыццё? Так, мог патраціць.

І зрабілася яму радасней на сэрцы.

**Сакрат Яновіч**

## РАКІТА

Я іду нарэзаць ракіты,
Хачу кошык у хаце сплясці.
А на лузе снег дымам клубіцца,
Вецер мчыць на мяцельным кані.

Зарасняк агалелы сутулен
Грае сумную песню зімы.
І сарочын домік пустуе
На кудравай вяршыне лазы.

Паміж чорных кустоў крушыны,
Дзе пасохла трава і ваўчкі,
Чырванеюць аднагадовыя
Ракіты пругкія дубцы.

Толькі я стаю ў задуменні
І сцізорык застыў у руках.
Сарваў вецер лісцё-адзенне,
Я цяпер вас пазбаўлю жыцця.

Горка доля чорнай ракіты,
Пні пакажуць карэння след.
А вясною сок стрэліць лісцем,
Многа пасынкаў нарасце.

**Ул. Гайдук**



## ХМАРА

Ад Сітаўкі хмара.
— Уцякай! — крык малых пастухоў па «лагерах».
Гоняць быдла і коні да пералазу. Першая бліскавіца і першыя грымоты.
— Адчыняй пералаз!
Каровы і коні ціснуцца ў вялікай чарадзе.
— Адчыняй! Адчыня-я-яй!
Хлопцы ўлазяць на коней і гоняць быдла кіямі, каб уцячы хутчэй перад дажджом.
Секанулі густыя кроплі, прабіваючы кашулю да голага цела. Дождж такі густы, што няма ўжо чаго ўцякаць.

**Эдвард Ярашэвіч**

## ★ Аб чалавеку ★

Харacтва-а ў чалавека
як чалавекам ёсць
аглядаць
ад нематы
да схону
нібы перлы
экспанаты рук
сэрца не астудзіш
абышоў іронію забыцця
перагарнуў эскізы мар
адкрываю
чалавечнасці музей
першым экспанатам
маіх бацькоў
здзейснены ілюзіі

**Яша Бурш**



**Алесь Свісёк**

*

Як мала чалавеку трэба!

Сказала яму толькі (шчырая, мілая, як першацвет): «Кахаю цябе, як подых вясны, які паклікаў мяне да жыцця».

А яму блакітам заспявала неба і першы раз ад многа дзён не прытвараўся вясёлым. Ачуньваючы па цяжкай хваробе, вучыцца стаўляць крокі аднова — кахаць свет.

Ловіць кожны яе позірк, кожную ўсмешку, затаварваючы іх на хвіліны, калі будзе мучыцца, не бачачы яе.

Ап'янеў ад шчасця.

Цалуе вецер, што кранае яе валасы, і моліцца нейкім багам, каб збавілі яе ад горычы, расчараванняў, адзіноцтва, якімі яго лёс абдараваў, калі, не ўмеючы жыць, здабыўся кахаць людзей і жыццё...



 




У полі за Ляўковам, дзе яшчэ нядаўна ганяліся зайцы, а вецер калыхаў мізэрнае жыта, зараз страляе дымам ў неба фабрычны комін. На глінястым узгорку за апошнія чатыры гады вырасла там буйнае керамічнае прадпрыемства, роўных якому няма ў цэлым Беластоцкім ваяводстве.

Пачало яно прадукцыю ў першы дзень сёлеташняй каляндарнай вясны. Гэты факт лічыць можна амаль што сімвалічным, бо ляўкоўская цагельня (так тут папулярна называюць гэтае прадпрыемства) адкрыла вясну новым, вялікім пераўтварэннем у гэтым прыпушчанскім, сельскагаспадарчым кутку Гайнаўскага павета. Ніколі ніхто не чуў там пра якую-колеч мясцовую прамысловасць. Калі хто думаў, каб паступіць на працу ў фабрыку, дык яго думкі ляцелі ў прамысловую Гайнаўку, у Беласток і далей. Старшыня прэзідыума ГРН у Ляўкове Мікалай Скепка мяркуе, што паводле вельмі недакладных падлікаў з вёсак іх грамады ўцякло ў шырокі свет найменш 400 асоб.

Гэтыя, каго трымала гаспадарка, хто не рызыкаваў пускацца ў невядомае, па-старому, як іх бацькі і прадзеды, вазамі і ботамі мясілі клейкую ляўкоўскую гліну. Мясілі і пракліналі.

І гэтая гліна сталася іх дабрадзействам. Яна прыцягнула ўвагу спецыялістаў па прадукцыі цэглы і дрэнарскіх трубак. Пасля ўступных доследаў аказалася, што ляўкоўская гліна — гэта высокаякаснае багацце. Прадукуючы па 40 мільёнаў цэглы ў год, хопіць яе на звыш 100 год. Можна ўявіць сабе цэлыя, прасторныя гарады, пабудаваныя з цэглаў выпрадукаваных у Ляўкове.

Зараз у ляўкоўскім керамічным прадпрыемстве працуе амаль 140 чалавек. Больш не трэба. Усё іншае робяць ма-



**Цягнік давозіць ляўкоўскую гліну ў цэх уступнай падрыхтоўкі.**

шыны і аўтаматы. Яны да мінімума абмяжоўваюць цяжкую працу чалавека. Землячарпалкі грузяць гліну на вагончыкі, якія давозяць яе ў цэх уступнай перапрацоўкі. Там яе пераймаюць транспарцёры, якія пераносяць сыравіну ад аўтамата да аўтамата — аж прайшоўшы праз электрычную печку, з другога боку з фабрыкі рабочыя прыймаюць гатовыя вырабы. Многа іх. У гадавым маштабе: 2 мільёны 182 тысячы штук высокаякаснай цэглы і звыш 10 мільёнаў штук дрэнарскіх трубак.

— Якімі якасцямі адзначаецца цэгла з вашага прадпрыемства? — пытаю кіраўніка гэтага прадпрыемства Уладзіміра Яськевіча.

— Мы прадукуем, — гаворыць ён, — цэглу «К2», так званую «кратоўку». Сімвал гэты абазначае, што нашая цэгла па размеру ў два разы большая ад нармальнай, а затым мае яна павет-раныя каналы, што значна павышае яе абагравальную ўстойлівасць. Сцены будынка з нашай цэглы могуць быць амаль на палавіну танчэйшыя, а іх цёплая ўстойлівасць будзе роўная падвойнаму муру з нармальнай цэглы. На практыцы абазначае гэта, што будынак з нашай кратоўкі будзе каштаваць значна танней.

— А што скажаце пра дрэнарскія трубкі?

— Пакуль што мы вучымся іх прадукаваць, але вось пару дзён таму назад завітаў да нас прадстаўнік міністэрства замежнага гандлю, паглядзеў гэтыя трубкі і сказаў, што яны высокай якасці, што можна будзе пасылаць іх на экспарт.



**Вугальнае топліва для печкі падаюць электрычныя транспарцёры.**

Урачыстае адкрыццё Ляўкоўскага керамічнага прадпрыемства адбылося 17 мая 1969 года — з нагоды Дня будаўніка. Сярод 140 рабочых ляўкоўскага прадпрыемства — мала прыездных. Пераважна прыйшлі яны з суседніх вёсак — найбольш з самага Ляўкова.

Аляксандр Бандарук з Ляўкова Старога працаваў яшчэ пры пабудове прадпрыемства. Быў тады мулярам. Зараз мае новую прафесію: з'яўляецца машыністам электравоза. Таксама Яўгеній Кардаш з Ляшукоў. Ён зараз абслугоўвае адзін з аўтаматаў, які фармуе цэглы, а пры пабудове прадпрыемства працаваў звычайным рабочым. Оля Панфілюк прышла з Нараўкі. Яна яшчэ зусім маладзенькая, але ў яе бацькоў аж сямёра дзяцей і ўсе малыя.

— Я цяпер столькі ж сама зарабляю, што мой бацька, які з'яўляецца пісьманосцам, — горда сцвярджае Оля.

Так вось фарміруецца ляўкоўскі рабочы клас. Гэта аптымістычная з'ява. За год, побач існуючага, распачнецца ў Ляўкове пабудова другога керамічнага прадпрыемства. Зноў будзе праца для сялян.

— Як вы ацэньваеце, таварыш старшыня, значэнне ляўкоўскага камбіната для вашай грамады? — пытаю старшыню Мікалая Скепку.

— Прамысловасць да бяды не вядзе, — так я гэта ацэньваю. Ужо зараз заўважаю, што сяляне больш салідна пачалі аплочваць налогі. Але і клопатаў больш. Трэба задбаць пра лепшае забеспячэнне мясцовай крамы, сачыць за дарогамі, якія разбіваюць нам аўтамашыны. Аднак не толькі сабе, але і іншым пажадаў бы я такіх клопатаў.

**Віктар Рудчык**

Фота: Цаф — **Сянько**



**Самабежныя транспарцёры падаюць гліну чарговым аўтаматам.**



**Сырыя цэглы паступаюць вось у гэтую печку, якая з'яўляецца апошнім словам тэхнікі.**



**Ляўкоўская цэгла чакае на пакупнікаў.**

Пачатак на стар. 1

## Беларусы не проста жывуць у Польшчы, але яе будуюць, з'яўляюцца яе супольнымі гаспадарамі

тасоўваючы іх да новых умоў. Павінна значыць быць прапорцыя паміж тым, што было, і тым, што ёсць, што будзе. Асабліва адносіцца гэта да моладзі. Гісторыя з'яўляецца, як гаворым папулярна, маці жыцця. Але толькі на гісторыі вялікіх парываў мы не створым. Вялікія парывы родзяцца на фоне праграмаў будучыні, перш за ўсё — будучыні. На гэтай хвалі вырастаюць гэтыя вялікія і ўзнёслыя парывы. І здаецца мне, што частка дзеячаў вашага таварыства не разумее гэтага. Ведаю, што гэта складаныя справы, але трэба гэта бачыць.

Не магу, на жаль, таксама згадзіцца з імкненнем да штатнай культуры, што мела месца ў справаздачы і выступленнях. Няма мастацкіх калектываў, бо няма працаўніка ад спраў культуры, няма штатаў, не развіваецца значыць дзейнасць Беларускага таварыства. Ведаю гэтыя клопаты, бо я працаваў у грамадскіх арганізацыях. У часе працы ў ЗМВ гаварылі мы: не дасце штатаў — не будзе ЗМВ. Сучасны член Палітычнага бюро, таварыш Тэйхма адказаў нам тады: — Штатаў не атрымаеце. ЗМВ будзе толькі тады аўтэнтычнай арганізацыяй, калі будзе мець аўтэнтычных дзеячаў і аўтэнтычную праграму.

Збыліся яго словы. Няма штатаў, а ёсць у Беластоцкім ваяводстве звыш 50-тысячная арганізацыя. Ніколі ў гісторыі не было такой вясковай арганізацыі.

Штатаў на культуру не дамо.

Што патрэба для развіцця культуры?

Каб развівалася культурнае жыццё, патрэбны рэпертуар, патрэбна матэрыяльная база і патрэбны аўтэнтычныя дзеячы. Патрэбны таксама штаты, але штаты для спецыялістаў, парадні, дзе аматарскі калектыў атрымае і рэпертуар і фаховую параду. На гэта будзем, па меры магчымасці, ісці. Але толькі на гэта. Штатаў для адміністрацыі не дамо, бо нам патрэбны спецыялісты, а не адміністратары.

Так справу ставім не толькі ў адносінах да вас, але наогул генеральна ў адносінах да нашай культуры. І ад гэтага становішча не адступім. Дарэчы кажучы, хацеў бы я звярнуць увагу, з якой дзяліўся я ў свой час з Прэзідыум ГП БГКТ. Вы з'яўляецеся нейкім кур'ёзам у краіне адносна ўтрымлівання эстраднага калектыву «Лявоніха». Стварылі вы гэты калектыў з інструктарскіх штатаў, таму не маеце інструктараў. Разгледзьце, ці патрэбны вам восем спевакоў ці музыкантаў у гэтым калектыве, ці восем спецыялістаў, якія будуць даваць фаховую параду шасцідзесяці ці ста мастацкім калектывам. Гэта ваша ўнутраная справа. Але калі хочаце нечага дабіцца, то ў гэтым толькі бачу шанц. Іншага шанца не бачу.

Справа музея. Скажу шчыра, што тут таксама дэлегаты не паінфармаваны. Згаджаюся з тав. Станкевічам, што тут на тэму гэтага музея замнога гаворыцца, а няма канкрэтнасці і няма дзеяння. Як гэта справа выглядае фактычна? Што ўмовы цяперашняга музея дрэнныя, усе аб гэтым ведаем. Аднак веды аб актуальным стане нічога не развяжуць.

Якая ёсць развязка? У найбліжэйшых чатырох гадах мы не здольны пабудаваць Беларускаму таварыству музея. Чаму? Таму, што ў найбліжэйшых чатырох гадах мы не ў сілах пабудаваць шмат іншых, неабходных аб'ектаў культуры. Ведаеце ж патрэбы, якія ў гэтай галіне ў нашым ваяводстве выступаюць. Не маем сапраўднай канцэртнай залы, у вельмі дрэнных умовах працуе радыё, не маем памяшканняў для Ваяводскага дома культуры, для Лялечнага тэатра і г.д.

Што ў сувязі з гэтым трэба рабіць? Наракаць? Не, трэба выкарыстоўваць тое, што можна, трэба дзейнічаць. Калі рэч аб музеі, то трэба загаспадараваць будынак па існуючым музеі ў Белавежы. Толькі, шчыра гаворачы, я не бачу дзейнасці ў гэтай справе. У маім перакананні класці цяпер націск на збор грошай не патрэбна. Бо справа не зводзіцца толькі да фонду. Калі зойдзе патрэбнасць, дамо грошы з надвыжкі Ваяводскай рады нарадовай. Гэта ж не толькі справа БГКТ. Гэта справа агульнаваяводская. Справа ў тым, каб таварышы цяпер распрацавалі нейкі сцэнарый, каб штодзённа сачылі за гэтымі ўсімі справамі. Бо можа зноў аказацца, што аддамо будынак, а, скажам, праз два гады і так яшчэ не патрапім загаспадараваць таго, што будзем мець.

Беларускае школьніцтва. Ліцэй у Гайнаўцы будзем будаваць. У першай чарзе, у якой толькі зможам наогул будаваць. Будзем будаваць не таму, што там, як нехта тут гаварыў, 90% беларусаў. Мне гэта найменш істотны крытэрый. Будзем будаваць проста таму, што ўмовы цяперашняга ліцэя дрэнныя і таму, што там ёсць моладзь, якая павінна здабыць сярэднюю адукацыю. Гэты аргумент будзе рашаючы ў гэтай справе.

Будзем таксама будаваць у Бельску Падляшскім, асабліва інтэрнаты. Дарэчы, хачу паведаміць таварышаў, што мы наогул у найбліжэйшым пяцігоддзі

# ЧАЛАВЕК ПРАЦЫ І ЗМАГАННЯ

Сакі — вёска невялікая — некалькі дзесяткаў хат раскінутых нерэгулярна і бязладна на палях паміж Кляшчэлямі і Малліннікамі. У адной з іх жыве Міхась Адамец — кандыдат на пасла ў сейм у набліжаючыхся выбарах. У якой — пазнаць не цяжка. Хата Міхася Адамца — як і яе гаспадар — прыемна адрозніваецца ад вясковай шэрасці і звычайнасці. Гэта новы прыгожы будынак з цэглы, пабудаваны на ўзгорку за вёскаю.

Заходжу ў хату Адамца. Гаспадар у сваім пакоі вядзе па тэлефону з кімсьці размову. Побач тэлевізар, біблятэчка з кніжкамі, усюды лад і парадак, сапраўды цяжка ўявіць, што знаходзішся ў звычайнай вёсцы, у хаце гаспадара.

Гавару хто я і інфармую, што хацеў бы пагутарыць, ды напісаць аб ім у «Ніве». Пагутарыць, таварыш Адамец не супраць, адносна пісання аднак мае пэўныя сумненні.

— Бачыце, — тлумачыць, — у нас неяк ужо так дзіўна ёсць, што часам чалавек робіць нават вельмі многа для грамадства, і ніхто гэтага не бачыць, і ніхто не пахваліць, і не падзякуе. А як пачнуць хваліць, дык зноў пахвалам канца няма. А тут звычайна, робім, што можам, каб было добра, — дадае скромна.

Міхась Адамец сапраўды чалавек скромны і без усякай напышлівасці. Хаця жыццё яго багатае вялікімі падзеямі, пачынамі, безупыннай працай і змаганнем. За ўсё, што мае, удзячны толькі працы сваіх рук і сваёй галаве.

Нарадзіўся Міхась Адамец у беднай сялянскай сям'і. Бацька, каб сабе і дзецям не памерці з голаду, дарабляў рамяством. Рана памёр, і рана Міхасю Адамцу прыйшлося ўзяцца за цяжкую працу пры гаспадарцы. Фармальная вучоба ў даваеннай Польшчы закончылася 4 класамі сялянскай школы. Далейшая адукацыя сялянскім дзецям была амаль недаступнай.

Магчымасці адукацыі адкрыліся пры савецкай уладзе. Міхась Адамец паступае ў рамесніцкую школу. Вучобу перарывае вайна. Адамцу, як юнаку, прыходзіцца працаваць у непасрэднай блізкасці фронту, пры пабудове ваенных умацаванняў. Працуе пад Масквою, а



Фота ЦАФ — Сянько

потым пад Курскам. Трапляе ў нямецкую нявзолю. Дзякуючы юнацкаму геройству, удаецца аднак яму ўцячы з няволі і вярнуцца ў Сакі ў родную хату.

Вызваленне застае Міхася Адамца ў Саках поўнага сіл і жыццёвай энергіі. Добраахвотнікам ставіцца ў рады II Арміі Войска Польскага. Яго атрад быў разбіты ў баях пад Варшаваю. Шукаючы сваёй вайсковай адзінкі, трапіў у Штаб Чырвонай Арміі. Стаўся яе салдатам.

— Усё роўна, — сказалі яму чырвонаармейцы, — змагаемся супраць супольнага ворага. Змагайся тады з намі.

І Міхась Адамец змагаўся. Прайшоў ваенны шлях па Эльбе, дзе адбылася радасная сустрэча з амерыканцамі, якая абазначала заканчэнне вайны. Заканчэнне вайны не абазначала аднак заканчэння змагання. Міхась Адамец змагаецца за ўтрыманне і ўмацаванне народнай улады. Толькі ў 1957 годзе вяртаецца ў родную вёску, у Сакі, каб узяцца за гаспадарку.

Аглядаючы хату і гаспадарку Міхася Адамца, здзіўляюся, як на працягу так кароткага часу можна было — пачынаючы зусім з нічога — так многа зрабіць. Таварыш Адамец мае, як кажуць, «залатыя рукі» — усё можа сам зрабіць. І сапраўды, амаль усё ў хаце і вакол хаты — гэта вынікі працы яго рук. Зараз аднак гаспадаркай займаецца пераважна яго жонка — сам Міхась Адамец заняты перш за ўсё міжгуртkоўскай машыновай базай, якой з'яўляецца кіраўніком, ды рознымі грамадскімі абавязкамі. А абавязкаў гэтых у таварыша Адамца шмат. З'яўляецца ён прэзасам Павятовага саюза сельскагаспадарчых гурткоў, сакратаром грамадскага камітэта партыі, членам Павятовага камітэта партыі ў Гайнаўцы, радным ваяводскай рады нарадовай у Беластоку — не лічачы ўжо розных іншых, менш істотных, функцый і абавязкаў.

Усё, што робіць таварыш Адамец, робіць з энергіяй і размахам. Усё, што добрага зроблена ў грамадзе, у вёсцы, у сельскагаспадарчым гуртку — у вялікай ступені можна дзякаваць яго дбайнасці і энергіі. Усё гэта з'яўляецца гарантыяй, што, калі станецца паслом, з яго здольнасцей, заангажавання і аддансці скарыстае ўсё грамадства.

**Ул. Паўлючук**

## НОВЫ СТАРШЫНЯ ГП БГКТ



Фота Цаф — Сянько

**Міхась Хмялеўскі нарадзіўся ў 1925 годзе ў Паўднёвым Востраве на Сакольшчыне ў сям'і малазямельнага селяніна. Сярэднюю і вышэйшую адукацыю здабывае за народнай улады. Восенню 1953 года, як магістр журналістыкі, пачынае працу ў рэдакцыі «Штандар Люду» ў Любліне. У 1954 годзе пераязджае ў Беласток да працы ў «Беластоцкай газеце». А калі была паклікана да жыцця рэдакцыя беларускага штотыднёвіка, пераходзіць у «Ніву» і працуе тут па сённяшні дзень.**

**М. Хмялеўскі пры Беластоцкім прэсавым выдавецтве з'яўляецца другім сакратаром партыйнай арганізацыі і намеснікам старшыні прафсаюзнай рады прадпрыемства.**

**На члена Прэзідыума ГП БГКТ быў пакліканы ў красавіку 1962 года. Функцыю старшыні ГП БГКТ выконваў ужо ў 1963—1966 гадах. А пасля далей быў членам Прэзідыума ГП.**

**Узнагароджаны Залатым крыжам заслугі і адзнакай 1000-годдзя Польскай дзяржавы.**

## Камасацыя на Бельшчыне

Малая прадукцыйнасць гаспадарак ва ўсходняй частцы Бельскага павета мае сваю непасрэдную прычыну ў зямельнай раздробленасці. Мясцовыя ўлады, дацэньваючы гэту праблему, у апошнія гады звярнулі асаблівую ўвагу на правядзенне камасацыі палёў. Дагэтуль камасацыя зроблена ўжо на тэрыторыі каля сямі тысяч гектараў. Зараз адбываецца падрыхтоўка да камасацыі далейшых васьмі тысяч гектараў палёў і сенажацяў. Запланавана, што камасацыйныя работы будуць цалкам закончаны ў Бельскім павеце недзе каля 1975 года. Разам з тым павінна адбывацца павышэнне сельскагаспадарчай культуры, механізацыя сельскагаспадарчых работ, умелае і паўсюднае ўжыванне мінеральных угнаенняў. Абавязковае ўжыванне мінеральных угнаенняў заведзена ўжо на тэрыторыі грамад Грыгораўцы і Пасынкі. (ся)

## Сувязь са светам

Працаўнікі сувязі не толькі дастаўляюць пісьмы, тэлеграмы, пасылкі ці газеты. Другую ролю, якая мае ўсё большае значэнне, выконваюць яны даючы нам магчымасць слухаць радыё, аглядаць тэлебачанне, весці тэлефонныя размовы.

У месяцы сакавіку на Гайнаўшчыне было зарэгістраваных **4.074** штукі радыёпрыёмнікаў, якія прымаюць праграму па радыёвузлах, а з гэтага ліку **2.998** на вёсцы. Аднак колькасць гэтага тыпу радыёпрыёмнікаў паменшваецца на карысць радыёпрыёмнікаў лямповых і тэлевізараў. Ва ўспомненым часе ў Гайнаўскім павеце аднатоўвалася **4 128** штук зарэгістраваных лямповых радыё, з чаго **2 475** на вёсцы і **2 535** тэлевізараў, дзе на вёску прыпадала **967** тэлевізараў.

Зараз Гайнаўшчына мае тэлефанізаваныя **93** вёскі, а радыёфанізаваныя **88**.

(ак)

## НАБОР У БЕЛАРУСКІЯ ЛІЦЭІ

У беларускіх ліцэях у Бельску і Гайнаўцы ідзе набор вучняў. Успомненыя ліцэі далі ўжо многа высокай рангі кадраў для нашай дзяржавы. Прыводзім прыклад.

Беларускі агульнаадукацыйны ліцэй у Бельску ўжо закончыла больш як 750 чалавек. Больш, як 480 яго абсальвентаў закончылі вышэйшыя навуковыя ўстановы, або яшчэ вучацца. Падобна справа выглядае і з выпускнікамі беларускага агульнаадукацыйнага ліцэя ў Гайнаўцы. А вось што трэба зрабіць, каб паступіць у агульнаадукацыйныя ліцэі ў Бельску і Гайнаўцы.

Трэба злажыць: 1) заяву (паданне), 2) аўтабіяграфію (жыццёрыс), 3) метрыку нараджэння, 4) пасведчанне школы аб тым, што з'яўляешся вучнем 8-га класа, 5) пасведчанне з 7-га класа, 6) пасведчанне аб здароўі (з найбліжэйшага пункта аховы здароўя), 7) два здымкі.

Будуць экзамены з:

1) польскай мовы
2) беларускай мовы
3) матэматыкі.

Тыя школьнікі, якія не вучыліся беларускай мовы ў пачатковай школе, будуць экзамены здаваць толькі з польскай мовы і матэматыкі. Беларускую мову будуць здаваць у снежні пасля падрыхтоўчага курса.

Выдатнікі з 7-га і 8-га класаў, гэта значыць тыя, якія маюць ацэнкі ў пасведчанні на выдатна і добра (5 і 4), могуць быць прыняты без уступных экзаменаў.

Ёсць магчымасць атрымаць стыпендыю, а ў бельскім ліцэі нават інтэрнат. Набор вучняў у ліцэі будзе працягвацца да 20 чэрвеня. Бельскі ліцэй вядзе набор у 3 першыя класы, а гайнаўскі — у 2 класы.

Падаем адрасы ліцэяў:

**Liceum Ogólnokształcące z białoruskim językiem nauczania w Bielsku Podlaskim, ulica Kopernika 4.**

**Liceum Ogólnokształcące z białoruskim językiem nauczania w Hajnówce, ul. Wyzwolenia 5.**

павінны зрабіць нейкі рашучы зрух у будаўніцтве інтэрнатаў. Мы павінны гэта зрабіць з увагі на стварэнне шанцу для здабыцця сярэдняй адукацыі вясковай моладзі.

Некалькі слоў на тэму настаўніцкіх кадраў. Справа таксама не лёгкая. Гэтыя кадры, як вядома, вучыліся ў педагагічных ліцэях, якія цяпер ліквідуем. Ліквідуем іх, бо настаўніку пасля сярэдняй школы няма чаго рабіць у васьмікласнай падставовай школе. Такая праўда. У сувязі з тым трэба пераісці на вышэйшы ўзровень падрыхтоўкі настаўніцкіх кадраў. Настаўніцкая студыя ўжо сёння таксама замала, і таму і іх ліквідуем. Пры СН у Беластоку была завочная студыя беларускай філалогіі. Але тры гады таму гаварыў я таварышам з Прэзідыум ГП БГКТ: створым дзённую студыю беларускай філалогіі.

Нічога аднак з гэтага не выйшла, бо не было кандыдатаў. Адкуль тады іх узяць?

Патрабуеце стварэння беларускай філалогіі пры філіялу Варшаўскага універсітэта ў Беластоку. Справа правільная, але не такая простая. Гэта не пытанне адкрыцця штата, ці калектыву. Да гэтага трэба мець магутную кадравую і памяшкальную базу. На аматаршчыну ў гэтай справе пайсці не можам. Мы павінны даць грунтоўную вышэйшую адукацыю ўсім, хто знойдзецца на беларускай філалогіі. І таму, таварышы, не нервуйцеся, што гэта зацягваецца, бо гэта патрабуе сапраўды велізарнай падрыхтоўкі і не залежыць ад волі нейкай акрэсленай асабістасці.

І апошняя справа, справа дапамогі камітэтаў партыі, якую ўзняў таварыш Баршчэўскі. Не падлягае найменшаму сумненню, што там, дзе гэтая дапамога камітэтаў партыі ёсць, там вынікі вашай працы большыя. Але я не толькі да гэтага справу зводзіў бы. БГКТ добра працуе на Гайнаўшчыне і Бельшчыне не толькі таму, што атрымлівае дапамогу КП. Развіваецца яно там таму, што там ёсць дзеячы Беларускага таварыства. Дык жа інструктар КП гурткоў БГКТ арганізаваць не будзе. Адносна Ваяводскага камітэта, дык справы вашага таварыства вельмі часта абмяркоўваюцца на пасяджэннях Нацыянальнай камісіі. Калі хочаце, каб справамі БГКТ бліжэй займалася кіраўніцтва ВК, вы павінны ў гэтай справе быць больш актыўнымі. А так, на жаль, не выглядае.

Заканчваючы, хацеў бы я прасіць прабачэння таварышаў за гэтае, быць можа, прыкрае выступленне, за гэтыя вельмі крытычныя акцэнты. Раблю гэта ў інтарэсе добрай дзейнасці Беларускага таварыства. Калі хочаце гэтай дапамогі, а дапамогу такую напэўна атрымаеце, дык усе пытанні павінны быць абмеркаваны і належна асветлены. Пры развязванні клопатаў не трэба з імі чакаць аж да з'ездаў. Думаю, што пасля гэтага з'езда гэта зменіцца. Жадаю новавыбраным уладам і вам усім поспехаў у працы ў найбліжэйшых гадах.

## НОВЫ САКРАТАР ГП БГКТ



фота Цаф — Сянько

**Іван Зенюк нарадзіўся ў 1935 годзе ў вёсцы Рэпіскі на Гайнаўшчыне. Пачатковую школу закончыў у суседняй вёсцы Ласінка, а сярэднюю — у Лодзі. Пасля вучыўся ў Настаўніцкай студыі на аддзяленні матэматыкі.**

**Тры гады працаваў настаўнікам у пачатковых школах у Рыбаках і Локніцы. Далей 8 гадоў працаваў у Ваяводскім праўленні Саюза сацыялістычнай моладзі, кіраўніком школьнага аддзела. Адначасова вучыўся завочна ў Варшаўскім універсітэце на аддзяленні педагогікі. У 1967 годзе паспяхова абараняе там магістэрскую працу.**

**Апошнім часам працаваў у ваяводскай дэлегатуры Найвышэйшай ізбы кантролю.**

**Іван Зенюк многа часу прысвячаў грамадскай дзейнасці. З'яўляўся пачаткова членам маладзёжнай камісіі, а пасля членам камісіі асветы і культуры пры ваяводскім камітэце ПАРП. А зноў пры Ваяводскай радзе нарадовай быў членам камісіі фізічнай культуры і турыстыкі. Зараз выконвае функцыю старшыні школьнай камісіі пры Ваяводскім праўленні ЗМС, а таксама з'яўляецца членам такой жа камісіі пры Галоўным праўленні ЗМС. Апрача таго Іван Зенюк з'яўляецца членам Прэзідыума Ваяводскага праўлення таварыства свецкай школы.**

**Іван Зенюк узнагароджаны Сярэбранай і Залатой адзнакамі Янкі Красіцкага.**

# ТРЫБУНА чытачоў

## КАЛІ НЕПАДРЫХТАВАНЫ ДЫСПАЗІТАР КАМАНДУЕЦЦА

Вясною мінулага года працаваў я трактарыстам ў сельскагаспадарчым гуртку ў Чыжах. Працаваў я на трактары «Урсус С—328» з рэестрацыйным нумарам АВ 54—77. Трактар быў стары, псаваўся часта і не прыносіў для гуртка даходу. Матор яго быў вельмі слабы і блакаваў яго ўсе хуткасці язды. Амаль усё ў ім не было спраўнае. У сувязі з гэтымі недахопамі трактара дыспазітар Уладзімір Астапчук згадзіўся, каб пераказаць мне іншы трактар гэтай самай маркі з рэестрацыйным нумарам АВ—55-04. Перад гэтым дыспазітар залажыў у пярэдняе калясо новую «пясту» і «лажыска». Добра гэта не было, таму што вянок лажыска быў заложаны адваротным бокам без перcцянёў. Уладзімір Астапчук прыказаў мне ехаць да кузні, каб каваль дарабіў падкладку. Але ў кузні каваль Васіль Чопюк пастанавіў праверыць работу дыспазітара. Як зняў калясо, убачыў, што лажыска зусім было змеленае, а пяста пашкоджаная. Гэта знервавала дыспазітара і яго сканфузіла. Але ён замест направіць сваю памылку або нетактоўнасць, пачаў звальваць віну на мяне і пагражаць звальненнем з працы. А калі разыходзіцца аб гэты трактар, ён не быў лепшы ад першага, бо ў ім таксама быў папсаваны матор і іншыя часткі. Вось з гэтых прычын дыспазітар часта мяне лаяў і зневажаў, але зусім не разбіраўся, што патрэбна трактару, што ў ім трэба наладзіць, таму што ён не толькі не меў закончанага трактарнага курса, а не меў нават закончанай пачатковай школы. Але камандваць любіў. Вось як у нас выглядае справа са спецыялістамі трактарнага парка.

**Янка Міхалюк**
Чыжы

## КОНКУРСЫ

Ваяводскае праўленне Саюза вясковай моладзі ў Беластоку супольна з аддзелам камунікацыі прэзідыума ВРН аб'явілі конкурс пад загалоўкам «Вясковая моладзь Беласточчыны будуе і рамантуе дарогі». Працягвацца будзе ён аж да 15.XI.1969 года. У гэтай справе апрацаваны спецыяльныя правілы, якія, між іншым, гаворапь, што свой удзел трэба заявіць праз ГРН і дарожны аддзел прэзідыума ПРН. Пераможцаў у конкурсе чакаюць цікавыя ўзнагароды.

*

Другі конкурс пад загалоўкам «На найлепш зялёную вёску» арганізуюць сельскагаспадарчы аддзел прэзідыума ВРН і Ваяводскае праўленне Саюза вясковай моладзі. Конкурс гэты будзе праводзіцца пад патранатам Ваяводскага камітэта Фронту адзінства народа. Аб конкурсе дакладных інфармацый могуць даць: ГРН-ы, павятовыя праўленні ЗМВ-у і аддзелы сельскай гаспадаркі ПРН. (С.М.)

---

— Мікалай Кузьміч, прэзідэнт Рузвельт будзе жыць у нашым пасольстве. Яму і прэм'еру Чэрчылю сказалі аб змове немцаў, аб тым, што яны рыхтуюць замах на вялікую тройку. На нас кладзецца вялікая адказнасць. Трэба да максімуму ўзмацніць ахову канферэнцыі і асабістую ахову кіраўнікоў дзяржаў.

Не выключаю, што ў немцаў ёсць другі варыянт арганізацыі тэрарыстычнага акту, які яны паспрабуюць выкарыстаць у сувязі з правалам першага.

*

Канферэнцыя ўжо закончылася, і кіраўнікі трох дзяржаў вылецелі на радзіму, калі Козыраў вярнуўся з Курдыстана.

Ён далажыў, што шэйк Асо, відаць, адчуўшы правал тэрарыстаў, пасля таго, як яны не з'явіліся да яго ў тэрмін, пакінуў племя на свайго брата, а сам уцёк у Турцыю.

Выслухаўшы даклад, Шлемаў сказаў:

— Нічога, далёка ад нас не ўцячэ. Усё здавалася так проста: паехаць і арыштаваць... І раптам такая няўдача. Што сказалі б з гэтай прычыны іранцы? — і Козыраў, які любіў пафарсіць іранскімі прымаўкамі, усміхнуўся:

— «Калі шчасце адвярнулася, ад халвы ламаюцца зубы», таварыш генерал.

— Прысутныя, задаволеныя, што завершана цяжкая і адказная справа, дружна засмяяліся.

## АБ ШКОДНАСЦІ І ЗАБАБОННАСЦІ

На Гайнаўшчыне прынята сярод гаспадароў, што парасят лепш купляць у гандляроў і пераплачваць на пары 100—150 зл. Тады парасяты абавязкова пашанцуюць, таму што гандляр, калі іх прадае, то зусім не шкадуе, а толькі адно думае, каб на парасятах добра зарабіць. Здараецца часта і тым людзям, што парасяты, купленыя ў гандляроў, таксама не пашанцуюць, яны зусім не растуць і сохнуць у вачах, як тут гавораць. Прычынай гэтага ёсць тое, што многія людзі, якія прадаюць парасяты, хочуць, каб яны нікому больш не пашанцавалі. Такія людзі робяць для парасят вялікую шкоду, якой адразу на кірмашы немагчыма выявіць. Яны некалькі валасоў з конскага хваста зацягваюць пад скуру парасятам. Месца, у якім быў зацягнуты хвост, хутка гоіцца і не астаецца па ім ніякага следу. Такія парасяты нічога не хочуць есці.

Вось якія ў нас яшчэ людзі: дрэнныя, забабонныя.

**Я. М.**
вёска Чыжы

## ДЗЕНЬ ПЕРАМОГІ

Дзень перамогі 9 мая быў урачыста адзначаны ў Бельскім павеце. У Пілікім лесе, над магіламі загінуўшых ад немцаў адбыліся цэнтральныя ўрачыстасці. Сакратар Павятовага камітэта ПАРП Раман Матосюк, старшыня павятовага штаба V-га алерту ЗГП прадставіў сабраўшайся моладзі і гарцэрам аграмаднасць знішчэнняў у час II сусветнай вайны. Пасля ён уручыў адзнакі апекуна месцаў народнай памяці для гарцэрскага шчэпу агульнаадукацыйнага ліцэя і эканамічнага тэхнікума. 15 гарцэраў з пачатковай школы № 1 атрымала гарцэрскія індывідуальныя адзнакі.

На заканчэнне адбыўся гарцэрскі касцёр пад музыку гарцэрскай аркестры з эканамічнага тэхнікума.

Падобныя ўрачыстасці адбыліся ў Райску, Орлі, Боцьках, Межвіне, Паўлах, Даманове. У іх узялі ўдзел мясцовыя аддзелы, гарцэры, сяляне.

**Веслаў Фалькоўскі**
Бельск Падляшскі

## АБАВЯЗАЦЕЛЬСТВЫ

У сувязі з 25-годдзем ПНР моладзь вёскі Крывой пастанавіла выканаць грамадскай працы на суму 90 тыс. зл. У рамах гэтага абавязацельства перабудуюць яны стары брук і ўложаць тратуар. Таксама моладзь Парцава будзе дапамагаць пры падзеле грунтаў і перабудоўцы дарогі. Вартасць грамадскага чыну асягне 33 тыс. зл. Моладзь з вёскі Малінікі пабудуе новую спартыўную пляцоўку. Вартасць чыну акрэсліваецца 10 тыс. зл.

**Валя**
Парцава

## Сардэчныя ТАЙНЫ

**Дарагое Сэрцайка!**

Пастанавіла і я да цябе напісаць пісьмо і папрасіць парады. Мне 20 год. Маю клопат з валасамі. Я прымяняла лак для валасоў вельмі часта і вельмі многа. Гэтым знішчыла свае валасы. Былі яны густыя і бліскучыя. А цяпер сталі выпадаць і завялася перхаць (лупеж).

Не ведаю, як яе пазбыцца і што зрабіць, каб валасы не выпадалі. Была я ў лекара-дэрматолага. Лякарствы, якія ён даў мне, не вельмі памаглі. Раяць мне лячыць хатнім спосабам: мыць галаву ў адвары крапівы або рамонку, другія, што перад мыццём улізаць у заду воцат або спірт, а іншыя зноў, каб яшчэ паехаць да лекара.

Што ты мне параіш, Сэрцайка?

**Галіна**
з Беластоцкага павета

Галіна! На мой погляд, дык гэта трэцяя парада найслушнейшая. Валасы выпадаюць іменна ад перхаці. А яе лячыць вельмі цяжка і доўга. Таму ты павінна яшчэ раз паехаць да лекара і не перарываць лячэння, якое прыпісаў лекар. Можаш паспрабаваць памыць галаву ў адвары з рамонку ці крапівы. Аднак не занядбоўвай і як найхутчэй паедзь да дэрматолага.

**Сэрцайка**

## СПАТКАННЕ З ПАСЛОМ

8-га мая ў эканамічным тэхнікуме ў Бельску Падляшскім адбылося спатканне настаўнікаў і працаўнікоў культуры з Яўгеніяй Красоўскай — дагэтуляшнім паслом сейма і адначасова кандыдатам на пасла наступнага скліканья. У гэтым спатканні ўзялі таксама ўдзел Леан Мяльвінскі — дырэктар банку з Бельска — кандыдат на раднага ў ВРН, а таксама Балеслаў Жукоўскі — рамеснік з Бельска — кандыдат на раднага ў ПРН. Гасцей сардэчна павітаў сакратар КП ПАРП Раман Матосюк. Пасля школьны інспектар Раман Татарчук прадставіў сітуацыю ў павеце ў галіне школьніцтва і культуры. У перыядзе апошняй кадэнцыі сейма ў павеце адбыліся вялікія змены. Асабліва гэтыя дасягненні відаць у пачатковым школьніцтве, у якім працуе 542 настаўнікі ў 104 школах. У апошніх 4-ох гадах пабудаваны школы ў Краснай Вёсцы, Алендах, Нурцу, Глінніку і Прушанцы. Пабудаваныя таксама ў Бельску сярэднія школы, як эканамічны тэхнікум і медыцынскі ліцэй. У ажыўленай дыскусіі настаўнікі гаварылі аб працы сваіх школ, аб падручніках. Прапанавалі ўвядзенне ў тэлевізійныя школьныя перадачы навучання рускай мовы.

Яўгенія Красоўская паінфармавала прысутных аб працы сеймавай камісіі асветы і культуры, у якой з'яўляецца яна намеснікам старшыні.

Пасля спаткання госці наведалі будову філіі фабрыкі прылад і ухвытаў, а таксама павятовую і гарадскую бібліятэку.

**Ф. В.**
Бельск

## ПАШТОЎКА З БЕЛАВЕЖЫ

Экстракласная гасцініца для валютных турыстаў (выканчваецца). Унізе рэстаран (таксама экстра). Гэты аб'ект павінен быць здадзены ў карыстанне яшчэ ў гэтым годзе. Стаіць ён (разам з музеем і гасцініцай «Іва») на месцы царскага палаца на ўзгорку ў Палацовым парку.

Фота С. Бушко

## У ШЧЫТАХ

У 1957 годзе ў Шчытах арганізаваліся гурткі ЗМВ і БГКТ, а таксама ад гэтай пары існуе там драматычны гурток. Праз 12 гадоў існавання драмгуртка пастаўлены былі такія п'есы як: «Пінская шляхта», «Суд», «Пярэстая красуля», «Конская кніжка», «Мікітаў лапаць», «Прымакі» і іншыя. У апошнім часе самадзейнікі са Шчытоў падрыхтавалі камедыю Я. Купалы «Прымакі». Выступалі яны ў сваёй вёсцы, а таксама ў Кашалях, Крывой і Крывяцічах.

Апрача дзейнасці драмгуртка, у Шчытах можна заўважыць іншыя формы дзейнасці, як адзначванне важнейшых гадавін, да якіх заўсёды рыхтуецца мастацкая частка. Неабходна трэба дадаць, што ў Шчытах няма святліцы, а ўсе мерапрыемствы адбываюцца ў мясцовай школе.

**С. М.** Шчыты

## ПСУЮЦЦА МАШЫНЫ

Трактарысты Міхась Мазурук і Сцяпан Пракапюк часта заглядаюць да гарэлкі. Трэцім трактарыстам працуе Павел Зелінко і ён найлепш вывязваецца са сваіх абавязкаў.

Калі разыходзіцца аб машыны сельскагаспадарчага гуртка, дык яны стаяць пад голым небам пакрытыя іржою. А можна было б укапаць некалькі стоўбікаў і рольку папы, і па ўсім клопаце, машыны не моклі б. Але аб такіх простых справах няма каму задбаць. Кіраўнік сельскагаспадарчага гуртка на чале з прэзасам Іванам Лукашуком дапускаюць да таго, каб «гнілі» так каштоўныя машыны.

**Віхура**
Градалі

## ГАРДЭРОБШЧЫКІ

Евілір'ян Фалькоўскі, Уладзіслаў Мартынюк і пані Кокаш працуюць гардэробшчыкамі ў рэстаране «Бельшчанка». Усе яны вельмі ветліва абслугоўваюць людзей. А пані Кокаш, калі пабачыць, што няма вешалкі ў вопратцы, кожнаму яе прышые, за што вельмі ўдзячны наведвальнікі рэстарана.

**Я.В.**
Бельск

## БУДЗЕ ЛЕС

У нядзелю 11 мая ў мясцовасці Кляшчэлі, жыхары засадзілі 6,5 га лесу. Пры гэтай працы брала ўдзел 800 чалавек: з Кляшчэляў, Сакоў, Дашоў, Сухавольцаў, Жукоў, Рускай Пятроўшчыны і Дабрывадаў. Таксама не забракла працаўнікоў з Павятовай рады нарадовай, з некаторых прадпрыемстваў з Гайнаўкі. Саджанцаў давозілі самаходамі з Бельска Падляшскага і Гайнаўкі.

**Ялоў**
Кляшчэлі

## КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**

„Gorzkie życie" (włoski), 3—8. „Troje i las" (polski), 9—10. „Arcylokaj" (franc.), 11—12.

**Дубіны**

„Ucieczka w milczenie" (NRD), 7—8.

**Нараўка**

„Szyfry" (polski), 4—8.

**Нарва**

„Hrabina [redacted]el" (polski). 4—3.

**Чыжы**

„Rozwód z miłości" (węgierski), 4—8.

**Дубічы Царкоўныя**

„Paryż — Warszawa bez wizy" (polski), 4—8.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Орля**

„Zosia" (radz.), 4—8.

**Райск**

„Trzy topole" (radz.), 4—8.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

„Grek Zorba" (USA), 3—4. „On nie chciał zabijać" (radz.), 5—6. „Kapryśne lato" (czeski), 7—8.

**Міхалова**

„Pierwszy dzień wolności" (polski), 3—4. „Kapryśne lato" (czeski), 5—6. „Kanał" (polski), 7—8.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Susza" (brazylijski), 3—4. „Kozacy" (radz.), 5—6. „Cena strachu" (franc.), 7—8.

**Шудзялава**

„Miłosne kłopoty" (radz.), 4—8.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

„Morderca na zawołanie" (NRD), „Czarny mustang" (USA) 4—8.

**Новы Двор**

„Żywot Mateusza" (polski), 7—8.

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

B.Z.Graf. H-1 NAKŁAD 7107

## Шчаслівая жанчына

Я прысеў на краю крэсла.

— Зрабіце ласку, пачакайце трохі, — сказала пані Кушпетлінская, разліваючы пудзінг у салатніцы. — Зараз пагаворым, толькі крыху вызвалюся.

— Мне на хвілінку, — папярэдзіў я.

Гаспадыня не пачула, бо яе ўвагу прыцягнула бойка, якая выбухнула паміж двума сынамі-малалеткамі. Яна спрытна развяла іх, дала кожнаму плескачоў і кінулася да пральнай машыны. Хуценька выліла брудную ваду, перакуліла саган з варам, дадала вадкага мыла і ўключыла маторчык.

— Вы з жыллёвага камітэта? — запытала яна ветліва.

— Так, паважаная суседка. Мы запаўняем статыстычную даведку, і ў нас не хапае даденых аб жыхарах вашай кватэры.

— Адну хвілінку, — усклікнула пані Кушпетлінская. — Рысек, што ты кладзеш пану ў кішэню?

— Глупства, — спрабаваў я ўсміхнуцца. — Гэта ж толькі нейкая дошчачка.

Потым выявілася, што да дошчачкі была прымацавана пастка на мышэй.

Пакараны хлапчук плакаў, пані Кушпетлінская прасіла прабачэння і забінтавала мне акрываўленыя пальцы. Пасля яна кінулася ратаваць кацёл з кашай і адначасова ўгаворвала сыноў:

— Дзеці, супакойцеся, прашу вас. Вы ж ведаеце, што бацька любіць падрамаць пасля працы. Не разбудзіце яго!

Прачнулася немаўлятка, якое трэба было пераспавіць.

Толькі я хацеў пачаць гаворку, як у кухню ўварваўся раз'юшаны жыхар з першага паверху, якому малодшы Гжэсь разбіў шыбу. Пакуль маці выслухоўвала скаргі госця, я адмахваўся ад раздурэлай дзятвы, што старалася ўцягнуць мяне ў сваю забаву — «будаўніцтва» моста з хатняй мэблі. Пасля таго, як пайшоў угневаны сусед, гаспадыня адшпіліла ад маіх плячэй аркуш паперы з малюнкам злоснага кукіша, які прычапілі мне дзеці.

— Якія ж статыстычныя дадзеныя прывялі вас сюды? — запытала жанчына і з асаладай прысела на табурэце.

— Мы ведалі, якая ў вас прафесія, дзе вы працуеце. Аднак пасля таго, што я тут убачыў...

— Ну так, — сказала гаспадыня і збянтэжана ўсміхнулася. — У мяне добры муж і я знаходжуся ў такім шчаслівым становішчы, што магу дазволіць сабе нідзе не працаваць.

**Тырэнцыюш**























### ПЫТАННЕ

Дзіця пытаецца ў бацькі:

— Тата, ты баішся зайцоў?

— Не

— А чаму ты тады бярэш на паляванне стрэльбу і сабаку?

### Талаваломка

Ад станцыі адыходзяць 3 лініі, рух пачынаецца ў 5 гадзін. Адпраўленне на трох лініях адбываецца адпаведна кожныя 20,25 і 35 мінут. Калі ў 5 гадзін адпраўляюцца ўсе 3 цягнікі, калі яшчэ будзе зноў адначасовы ад'езд.

Адказ на пытанне з папярэдняга нумара:

### КЕМЛІВАСЦЬ

Аднойчы моцна захмялеў
Ды раздурыўся грозны Леў,
Хоць ён напіўся да п'яна,
Але хацеў яшчэ віна.

Ён па віно паслаў Львянё.
Яму адказвала яно:
— Купіць няцяжка — загадай,
Ды не забудзься, грошы дай.

Леў з абурэннем забурчэў:
— Нягоднік, прэч з маіх вачэй!
За грошы кожны ўзяць мастак,
А ты дастань, галубчык, так!

І, калі сонейка зайшло,
Львянё з бутэлькаю прыйшло,
Але чамусьці без віна,
Зусім пустой была яна.

Ад злосці пыркнуў слінай Леў.
— З кім жартаваць ты захацеў?!
Цябе я зараз правучу,
Як след, Львянё, пакалачу!

— За што ж мяне ты будзеш біць?
І дурань можа з поўнай піць.
Не пагражай мне, лепей стой:
Ты выпіць паспрабуй з пустой!

Леў не знайшоў ніяк адказу
І супакоіўся адразу.

Калі дурны падчас лютуе,
Разумных кемлівасць ратуе.

**Мікола Вяршынін**

### ТОЛЬКІ

— Вось бачыш, сынок, аказваецца, і твой тата можа цябе выкупаць, а ты ж сказаў, што без мамы мы тут ніяк не абыдземся! — урачыста сказаў бацька.

— Так, татку, толькі мама перад купаннем чамусьці заусёды знімала з мяне чаравікі!



— Сёння не дазваляюць мне выйсці!

### СЛУШНАЯ ПАРАДА

Оля і мама вярталіся з кірмашу. Зайшлі ў прадуктовую краму.

— Я хачу яшчэ і отакіх цукерак! — катэгарычна заявіла дзяўчынка, спыніўшыся ў кандытарскім аддзеле.

Грошай засталося мала, і маці вырашыла схітраваць:

— Ах, дачушка, у гэтай цёці заўсёды цукеркі дарагія...

— Дарагія? — перапытала Оля. — А ты патаргуйся!

### А Ў ДОЖДЖ?

Настаўнік: — Што мы бачым над галавой ў пагодны дзень?

Вучань: — Блакітнае неба.

Настаўнік: — А ў дождж?

Вучань: — Парасон.

### ТУК-ТУК...

Нейк у адной удавы нехта ўкраў вепрука. На месца злачынства прыбыў міліцыянер. Падазрэнне падала на аднаго селяніна. Але пасля вобыску не было выяўлена ніякіх прыкмет крадзежы. Міліцыянер ужо, было, збіраўся ісці, калі яго ўвагу прыцягнуў маленькі хлопчык. Ён стаяў на ганку і гладзіў сябе па жывоціку. Міліцыянер падышоў да хлопчыка, пастукаў пальцам па жывоціку і жартаўліва сказаў:

— Тук-тук, наеўся круп?

— Не, мяса, — адказаў хлопчык, — у нас яго яшчэ шмат! — і паказаў пальцам пад ганак, дзе і была знойдзена прапажа.

### ШТО ДУМАЕ

Браун ажаніўся другі раз. Ён пытаецца свайго маленькага сына:

— Ну, як, Сэмі, падабаецца табе твая новая мама?

— Татка, я думаю, што цябе ашукалі. Яна не такая ўжо новая.

### УЛЬТЫМАТУМ

— Калі ты, мама, не дасі мне грошай на марожанае, то калі мы на другі раз паедзем у трамваі, я буду называць цябе бабуляй!

### ЭКАНОМІЯ

Пасля заканчэння навучальнага года другакласнік Пятрук прыбег дамоў і радасна закрычаў:

— Тата, мама, я зрабіў для вас эканомію!

— Якую эканомію?

— Вам не давядзецца ў гэтым годзе купляць мне падручнікі!

— Чаму?

— Я застаўся яшчэ на год у другім класе.

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

**Па просьбе Анатоля Нічыпарука са Ступнік, Бельскага павета, змяшчаем песню п.з.**

## Я люблю тебя, жизнь

**Стихи К. Ваншенкина. Музыка Э. Колмановского**

Я люблю тебя, жизнь,
Что само по себе и не ново.
Я люблю тебя, жизнь,
Я люблю тебя снова и снова.

Вот уж окна зажглись,
Я шагаю с работы устало.
Я люблю тебя, жизнь,
И хочу, чтобы лучше ты стала.

Мне немало дано:
Ширь земли и равнина морская,
Мне известна давно
Бескорыстная дружба мужская.

В звоне каждого дня
Как я счастлив, что нет мне покоя, —
Есть любовь у меня.
Жизнь, ты знаешь, што это такое...

Как поют соловьи,
Полумрак, поцелуй на рассвете,
И вершина любви —
Это чудо великое, дети!

Вновь мы с ними пройдем
Детство, юность, вокзалы, причалы,
Будут внуки потом,
Все опять повторится сначала.

Ах, как годы летят,
Мы грустим, седину замечая,
Жизнь, ты помнишь солдат,
Что погибли, тебя защищая?

Так ликуй и вершись
В трубных звуках весеннего гимна
Я люблю тебя, жизнь,
И надеюсь, что это взаимно!

### ВОСЬ ПЫТАННЕ



Дзіця — свайму доўгавалосаму бацьку, брынчаўшаму на гітары:

— Тата, а што ты будзеш рабіць, калі вырасцеш?

### ХІТРУН

Вучань да настаўніка: — Ці можна караць чалавека за тое, чаго ён не зрабіў?

Настаўнік: — Ясна, што не!..

Вучань: — Ну дык я скажу вам, што не зрабіў тых задач, што вы задавалі нам, на сёння.

## Курёзы

### Адвакат і пагромшчык

З'яўляецца вядомым рымскім адвакатам, і апрача гэтага Лучыана Спінелі ў вольных хвілінах займаецца даволі незвычайным хобі: з'яўляецца пагромшчыкам дзікіх звяроў. Яго прысядзібная тадоўля: 1 леў, 1 пума, 1 чорная пантэра, 1 геапард, 1 леапард, 1 воўк, 1 мядзведзь і 70 іншых меншых драпежнікаў. Увесь гэты заапарк апрача прыемнасці прыносіць яму таксама дадатковыя даходы за выступленні ў розных кінафільмах.



Каманда братоў Асінскіх

У Быдгашчы адбыўся футбольны матч, падобнага якому не ведала гісторыя спорту. Супраць каманды мясцовых журналістаў выступала адзінаццаць сыноў муляра Асінскага. Хоць матч з лікам 1:0 выйгралі журналісты, публіка была за братамі Асінскімі і пасля спаборніцтва вынесла іх з поля на руках.




**Ніколі не адкладвай на заўтра тое, што можна зрабіць праз тыдзень.**